Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г.Мінск, вул. Змітрака Бядулі, 6-47.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Аўторак, 26 студзеня 1999 г. № 8 (539) Кошт свабодны

## Інтрыгі вакол Кангрэса

**Беларускія ўлады робяць перашкоды арганізатарам Кангрэса дэмакратычных сілаў Беларусі, які запланаваны на 29—30 студзеня.**

Старшыня аргкамітэта па правядзенні Кангрэса дэмакратычных сілаў Беларусі, кіраўнік «ценявога ўрада» рэспублікі Генадзь Карпенка паведаміў журналістам наступнае. За тыдзень да кангрэса адміністрацыя Палаца культуры «Сукно», у памяшканні якога планавалася правесці мерапрыемства, абвясціла арганізатарам форуму, што намеснік старшыні гарвыканкама Віктар Чыкін адклікаў свой дазвол. Чыноўнік патлумачыў гэта тым, што Кангрэс дэмакратычных сілаў Беларусі не зарэгістраваны ў міністэрстве юстыцыі. Арганізатары кангрэса павінны цяпер вырашыць праблему з месцам яго правядзення.

На думку Г.Карпенкі, гэтая прычына штучная: кангрэс — гэта не арганізацыя, а сход грамадзянаў, і па закону яго не трэба рэгістраваць. Нагадаем, што ў кангрэсе павінны ўзяць удзел каля тысячы чалавек, сярод якіх — шэраг заходніх палітыкаў і прадстаўнікоў міжнародных арганізацыяў.

*БелаПАН*

***P.S.***

***Перад самым выхадам газеты нам стала вядома, што сталічныя ўлады ў чарговы раз памянялі сваё рашэнне і дазволілі арганізатарам правесці паседжанне Кангрэса дэмакратычных сілаў у палацы культуры «Сукно».***

## Польскія дэпутаты за свабодную Беларусь

**Сейм Рэспублікі Польшча прыняў зварот да беларускага народа, у якім выказвае падтрымку і ўдзячнасць дэмакратычным сілам Беларусі і дэпутатам Вярхоўнага Савета 13-га склікання.**

*«Многія трапілі пад рэпрэсіі, а некаторыя кінуты ў турмы,* — гаворыцца ў звароце Сейма. — *Мы патрабуем вызвалення з турмы дэпутатаў Андрэя Клімава і Уладзіміра Кудзінава, выказваем сваю салідарнасць з усімі рэпрэсаванымі за перакананні і барацьбу за свабоду».* Польскія дэпутаты лічаць, што шанцам для вырашэння існуючых у Беларусі праблемаў з'яўляюцца перамовы паміж уладай і апазіцыяй, якія здольныя дапамагчы краіне выйсці з міжнароднай ізаляцыі. *«Польшча інтэгруецца ў еўраатлантычныя структуры,* — гаворыцца ў заяве, — *і ў далейшым хоча прытрымлівацца добрасуседскіх адносінаў з Беларуссю. Існаванне дэмакратычнай, суверэннай і стабільнай Беларусі — у інтарэсах усёй Еўропы».*

Беларускія ўлады даволі востра адрэагавалі на прынятыя Сеймам Польшчы зварот. Міністэрства замежных справаў у суботу распаўсюдзіла з гэтай нагоды афіцыйную заяву. Прадстаўнікі знешнепалітычнага ведамства лічаць, што пасланне дэпутатаў польскага парламента з'яўляецца ўмяшальніцтвам ва ўнутраныя справы суверэннай Беларусі. На думку аўтараў заявы, Сейм Польшчы сваімі дзеяннямі *«ставіць пад сумненне раўнапраўны характар зносінаў паміж нашымі дзяржавамі». «Робячы гэты крок, польскія дэпутаты не маглі не разумець, што ён можа ўскладніць адносіны паміж Беларуссю і Польшчай. Падобныя дзеянні таксама не адпавядаюць дэкларацыі, якая гарантуе, што ўступленне ў NATO новых членаў не створыць напружанасці ў адносінах з суседнімі дзяржавамі»,* — гаворыцца далей у заяве беларускага МЗС. Супрацоўнікі ведамства Урала Латыпава таксама звяртаюць увагу польскага боку на тое, што *«народ Беларусі валодае суверэнным правам самастойна вызначаць склад і паўнамоцтвы заканадаўчага органа сваёй дзяржавы».*

Тым не менш, у заяве адзначаецца, што, *«нягледзячы на яўна недружалюбны характар паслання польскага Сейма, Рэспубліка Беларусь пацвярджае сваю гатоўнасць да канструктыўнага дыялогу з Рэспублікай Польшча на сапраўды раўнапраўнай аснове».*

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ, Генадзь БАРБАРЫЧ**



## Радыеактыўны вагон

**У цягніку Масква–Варшава праз усю Беларусь праследаваў вагон, які меў павышаны ў некалькі разоў радыеактыўны ўзровень.**

20 студзеня гэта выявілі палякі на памежнай станцыі Тэрэспаль. Павышаная доза радыяцыі была выяўлена і ў 11 пасажыраў. Прычына была выяўлена адразу — схаваныя ў купэ праваслаўныя абразы. Вагон быў апламбаваны і пастаўлены на запасную каляю.

**С.А.**

## У прэзідэнты – Чыгіра

**Сацыял-дэмакраты вырашылі падтрымаць на абвешчаных Вярхоўным Саветам 13-га склікання прэзідэнцкіх выбарах кандыдатуру былога прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра.**

Пленум ЦК БСДП «Народная Грамада», які адбыўся ў мінулую суботу, прыняў рашэнне рэкамендаваць арганізацыям партыі падтрымліваць кандыдатуру М.Чыгіра. Будучы кандыдат у прэзідэнты сам прысутнічаў на гэтым пленуме, адказваў на пытанні грамадоўцаў і ў выніку заручыўся іх падтрымкай. Нагадаем, што лідэры БСДП «Народная Грамада» Мікалай Статкевіч і Мечыслаў Грыб раней не выключалі, што ў пэўных умовах яны маглі б таксама прэтэндаваць на пасаду прэзідэнта, аднак, відаць, такія ўмовы яшчэ не саспелі.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## Ахова праспала сцяг

**У ноч з 21 на 22 студзеня над будынкам Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта замест дзяржаўнага быў узняты бел-чырвона-белы сцяг.**

Будынак сталічнай адміністрацыі, што размешчаны ў самым цэнтры Мінска, на плошчы Незалежнасці, кругласутачна ахоўваецца супрацоўнікамі міліцыі. Аднак некаму ўдалося непрыкметна памяняць сцягі на даху Мінгарвыканкама. Чыноўнікі гарвыканкама не пацвердзілі, але і не абверглі інфармацыю пра гэтае здарэнне.

*БелаПАН*

*Форум краінаў Садружнасці*

## Чакаюць Беразоўскага

**Учора ў мінскай штаб-кватэры СНД пачаў працу Форум краінаў Садружнасці. Чакаецца, што сёння ўдзел у ім прыме сам Барыс Беразоўскі.**

Галоўнае пытанне парадку дня форуму — рэфармаванне СНД. На форум выносяцца два праекты рэформы. Першы, распрацаваны рабочай групай пад кіраўніцтвам Васіля Шаладонава, носіць чыста касметычны характар. Другі праект, прапанаваны Беразоўскім, прадугледжвае кардынальныя змены — аж да ператварэння выканаўчага сакратарыята СНД у наддзяржаўны орган з шырокімі паўнамоцтвамі.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Чыгіру цэлілі ў сэрца

**Рацыя, што ляжала ў нагруднай кішэні, выратавала жыццё сяржанту міліцыі Івану Чыгіру з Салігорска.**

Ноччу з суботы на нядзелю сяржант Чыгір удзельнічаў у затрыманні нецвярозых хуліганаў. Адзін з іх, 20-гадовы Юрый С., тройчы ўдарыў міліцыянта нажом. Ён цэліў у сэрца, аднак трапіў у міліцэйскую рацыю.

Злачынца затрыманы, супраць яго ўзбуджана крымінальная справа, а Іван Чыгір, не атрымаўшы ні драпіны, зноў выходзіць на дзяжурствы і ловіць хуліганаў.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## Міліцыі перашкаджаюць «гучныя справы»

**За мінулы год у Магілёўскай вобласці не раскрыта ніводнае заказное забойства, моцна расце колькасць справаў па незаконным абароце наркотыкаў. За год па вобласці зарэгістравана 9 тысяч цяжкіх злачынстваў.**

Як заявіў кіраўнік абласной міліцыі палкоўнік Апанасевіч, значная частка супрацоўнікаў міліцыі летась была адцягнута на раскрыццё такіх гучных і «асабліва цяжкіх» справаў, як забойства Мікалуцкага, справы экс-міністра Лявонава і былога старшыні калгаса «Рассвет» Старавойтава. Апрача таго, на плечы людзей у пагонах лягла таксама барацьба з вывазам тавараў за межы Беларусі, сотні міліцыянтаў замест вышуку злачынцаў дзяжурылі на дарогах.

**Іван ЗАСАДА**

*СТАРЫ АЛЬБОМ*



## Азвярэў ад гарэлкі

**Надзвычайны выпадак здарыўся днямі ў вёсцы Задуб'е Ганцавіцкага раёна. П'яны міліцыянт адкрыў страляніну па адным з жыхароў вёскі.**

Па сведчанні вяскоўцаў, оперупаўнаважаны Ганцавіцкага РАУС Рамановіч і участковы міліцыянт Шчасны 20 студзеня пачалі піць гарэлку з самай раніцы. Пад вечар абодва «ахоўнікі парадку» ужо на добрым падпітку завіталі ў госці да дзяўчат, якія здымаюць пакой у доме жыхаркі Задуб'я Марыі Сідарэвіч. Пазней да вясёлай кампаніі далучыўся і брыгадзір мясцовага калгаса.

Раптам Рамановіч выйшаў на двор, дзе ў яго з сынам гаспадыні завязалася спрэчка, а потым і бойка. На крыкі з дому выбеглі сябры Рамановіча, якія ледзь супакоілі раз'юшанага міліцыянта. Здавалася б, канфлікт вычарпаны, але раптам Рамановіч дастаў табельны пісталет і стрэліў у паветра. Другі стрэл п'яны аператыўнік спрабаваў зрабіць па сваім крыўдзіцелі. Аднак участковы міліцыянт паспеў штурхнуць свайго таварыша, і куля не закранула Сідарэвіча, прасвісцеўшы непадалёк ад яго галавы.

Сведкамі гэтага здарэння было нямала людзей, аднак, па нашых звестках, кіраўніцтва ганцавіцкай міліцыі цяпер спрабуе замяць справу і адмазаць свайго падначаленага. Так, начальнік мясцовага райаддзела міліцыі Мікалай Дрынеўскі ў размове з карэспандэнтам НАВІНАЎ паведаміў, што Рамановіч быў у той дзень у Задуб'і «на заданні». Па словах міліцэйскага начальніка, оперупаўнаважаны нібыта затрымліваў у вёсцы браканьераў і выкарыстаў табельную зброю правамерна.

**Язэп СІНІЦКІ**




IREX/ProMedia

## Ліст Пазьняка чытаюць

**У мінулую суботу ў Гродне адбыўся пікет, арганізаваны БНФ. Удзельнікі трымалі плакаты: «Мы абаронім нашу Беларусь — наш дом, нашую незалежнасць і нашую будучыню».**

Пікет праходзіў у людным месцы — непадалёк ад Цэнтральнага рынку. Удзельнікі раздалі гараджанам улёткі і незалежныя выданні: газету «Рабочий», інфармацыйны лісток «Хартыі-97», заявы аб грамадзянстве БНР, ліст вайскоўцаў, супрацоўнікаў міліцыі і КДБ, а таксама 800 паасобнікаў ліста З.Пазьняка «Абаронім Беларусь». Па словах пікетчыкаў, усе гэтыя выданні і ўлёткі карысталіся вялікім попытам. Каб атрымаць іх, з тралейбусаў нават выходзілі вадзіцелі.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## Пікет супраць аб'яднання з Расіяй

**Пікет супраць аб'яднання з Расіяй адбыўся 23 студзеня ў Гомелі. Акцыю правялі гарадскія арганізацыі БНФ і АГП. Пікетоўцы трымалі ў руках плакаты: "Не аддадзім Маці-Беларусь у расійскія кіпцюры!", "Не — імперскім планам!", "Не — саюзу крымінала і жабрацтва".**

Пад нацыянальнымі сцягамі і сцягамі апазіцыйных партыяў сабраліся каля 50 актывістаў дэмакратычных арганізацыяў. Яны раздавалі прахожым спецыяльна падрыхтаваную заяву з тлумачэннем сваёй пазіцыі, а таксама праваабарончую і партыйную літаратуру. За дзве гадзіны зацікаўленыя гараджане разабралі каля 1.000 газет, брашур і ўлётак. Большасць з іх выказвала падтрымку пазіцыі пікетоўцаў. Пікет ахоўвала міліцыя, якая паводзіла сябе гэтым разам надзвычай карэктна.

**Мікола ЯСІНСКІ**

# На працэсе Старавойтава сітуацыя мяняецца кожны дзень

**Вядомы ў Беларусі адвакат Гары Паганяйла накіраваў у краіны ЕС, еўрапейскія структуры і амбасады суседніх з Беларуссю краінаў зварот, у якім заклікае падзейнічаць на пазіцыю беларускіх уладаў у адносінах да Васіля Старавойтава.**

Адвакат сцвярджае, што беларускія ўлады «жорстка і бесчалавечна» абыходзяцца з былым старшынёю «Рассвета». Улады не прыслухаліся да меркавання аўтарытэтных экспертаў, што шматлікія хваробы 75-гадовага вязня патрабуюць неадкладнага лячэння. Па назіраннях Г.Паганяйлы, які бярэ ўдзел у працэсе ў Кіраўску ў якасці грамадскага абаронцы ад Беларускага Хельсінкскага камітэта, суд дапускае працэсуальныя парушэнні і абмяжоўвае правы Васіля Старавойтава на абарону. *«Фактычна беларускія ўлады наўмысна забіваюць Васіля Старавойтава яшчэ да вынясення яму прысуду»*, — лічыць адвакат.

Што ж прымусіла Г.Паганяйлу звярнуцца з просьбай аб падтрымцы ў еўрапейскія структуры? У адказ на гэтае пытанне адвакат распавёў карэспандэнту НАВІНАЎ, што апошнім сваім рашэннем суд у Кіраўску прызначыў новую экспертызу псіхічнага стану В.Старавойтава. Агледзець падсуднага непасрэдна на працэсе павінны магілёўскія эксперты Саўчанкаў і Белянін, а заключэнне мінскага псіхіятра Буданава, які выказаўся за неадкладнае лячэнне падсуднага, праігнаравана. *«Мэта суддзяў — любой цаной атрымаць ад Старавойтава паказанні гаменавіта цяпер, калі ён хворы і не ўстане поўнасцю сябе кантраляваць. Я касцьмі лягу, але не дазволю гэтага. Чалавека спачатку трэба вылечыць, а потым судзіць, інакш гэта не суд, а расправа»*, — заяўляе адвакат Гары Паганяйла.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

Калі вярстаўся нумар, НАВІНЫ атрымалі новыя звесткі з Кіраўскага суда: канфлікт паміж суддзямі і абаронай Старавойтава пашыраецца.

Учора на ранішнім пасяджэнні суддзя Надзея Чмара выдаліла з працэсу грамадскага абаронцу Гары Паганяйлу. Гэта адбылося пасля таго, як Паганяйла паспрабаваў заявіць хадайніцтва аб далучэнні ў экспертную групу незалежных экспертаў, падабраных пад наглядам АБСЕ.

Суддзя Чмара абвясціла, што мае намер звярнуцца ў Мінюст і запрасіць на працэс прадстаўніка міністэрства, які б прысутнічаў на працэсе і назіраў за паводзінамі адвакатаў. Суддзя лічыць, што абарона наўмысна зацягвае працэс. Адвакат Вера Страмкоўская, з свайго боку, заяўляе, што суддзя Надзея Чмара яе абражае і не дае магчымасці выконваць свае абавязкі. *«Суддзя адкрыта ўздзейнічала на Васіля Старавойтава, каб той адмовіўся ад абароны»*, — кажа Вера Страмкоўская.

Беларускі Хельсінкскі камітэт надае падзеям на працэсе ў Кіраўску надзвычайную ўвагу. *«Ціск на абаронцаў узмацняецца, бо яны паказваюць свету, чаго вартае нашае правасуддзе. Тое, што адбылося ў Кіраўскім судзе, БХК успрымае, як грубае парушэнне правоў чалавека ў Беларусі. Мы будзем звяртацца ў АБСЕ, камітэт па правах чалавека ААН і праваабарончыя арганізацыі»*, — заявіў выканаўчы дырэктар БХК Алег Гулак.

**А.Г.**

# Шынка з мытні

**Супрацоўнікамі Ашмянскай мытні, якая знаходзіцца на беларуска-літоўскай мяжы, за апошні час затрымана нямала розных грузаў, у тым ліку прадуктаў харчавання.**

На КПП Катлоўка, напрыклад, мытнікі звярнулі ўвагу, што замест указаных у дакументах замарожаных мясапрадуктаў, не гатовых да ўжывання, правозілася вяндліна ў вакуумных упакоўках. Амаль 20 тонаў на 6 мільярдаў 265 мільёнаў рублёў. Паводле рашэння суда, гэтыя грошы трапілі ў даход дзяржавы.

Найбольш падобных парушэнняў выяўляецца, аднак, на КПП Каменны Лог. Нядаўна там была затрыманая машына з шакаладнымі цукеркамі. Але разам з імі было амаль 5 з паловай тонаў жавальнай карамелі, пра якую ў суправаджальных паперах не было ні слова. Увесь груз каштаваў 1 мільярд 626 мільёнаў рублёў. Матэрыялы справы перададзеныя ў суд Ашмянскага раёна.

Яшчэ даражэй — 7 мільярдаў 112 мільёнаў — каштаваў груз больш за 17 тонаў, які быў у двух рэфрыжэратарах, затрыманых на тым жа КПП. Замест курынага фаршу ў дакументах быў указаны фарш з індыкі, мытны збор на ўвоз якога ўдвая меншы. Гэтую справу таксама павінен разгледзець суд.

Бывае, што рашэнне суда патрабуецца тэрмінова. Да прыкладу, нядаўна былі затрыманыя дзве машыны са свежымі кветкамі, якіх было значна больш, чым па дакументах. Агульны кошт перавышаў 5 мільярдаў рублёў. Пастановай суда груз быў канфіскаваны. Кветкі, дарэчы, везлі ў Маскву. Без маразільнай камеры яны хутка загінулі б. Уладальнік грузу звярнуўся ў суд і выкупіў іх. Падобныя выпадкі прадугледжаны, законам.

На мытні нам паведамілі, што затрыманыя грузы ацэньваюцца яе супрацоўнікамі, зыходзячы з цэнаў, якія існуюць на дадзены момант. Потым, калі справа разглядаецца ў судзе, канчатковы кошт вызначаецца спецыяльнай камісіяй, у якой ёсць прадстаўнік райвыканкама, падатковай інспекцыі, суда і мытні. Цана, якая вызначаецца камісіяй, як правіла, не перавышае рынкавую, але і не з'яўляецца ніжэй за дзяржаўную — на дадзены тавар.

Апроч таго, што выгаду мае дзяржава, ёсць прычына парадавацца і ў мясцовых жыхароў. Напрыклад, у трох суседніх раёнах — Астравецкім, Ашмянскім і Смаргонскім летась насельніцтву было прададзена на 18 мільярдаў рублёў абутку заходній вытворчасці, які быў затрыманы мытнікамі.

Каб павысіць выніковасць працы, на Ашмянскай мытні быў створаны перасоўны мабільны атрад з дзесяці супрацоўнікаў, якія забяспечаны трыма машынамі з адпаведнымі прыладамі.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Продукция «фабрик мысли» лежит на складах

***Ни власти, ни оппозиция не работают с независимыми исследователями — и в этом нет ничего хорошего***

*«В Беларуси, как и в России, глубоко укоренилась привычка называть явления словами, совершенно для этого неподходящими. Например, хаос и повальное воровство в России почему-то назвали «рыночными реформами». В Беларуси государственные и негосударственные СМИ наделяют одни и те же понятия («политика», «парламент», «партия», «оппозиция» и др.) существенно различными значениями. В освещении государственных СМИ политика беспартийна, неплюралистична, неоппозиционна и целиком сосредоточена в государственных органах: что делается вне этих органов — то и не является политикой»*, — отметила политолог Светлана Наумова в своем докладе «СМИ как объект исследования». Этот доклад был сделан на семинаре «Фабрики мысли: влияние на общественный процесс», прошедшем недавно в Бресте.

В разных ракурсах о взаимодействии «фабрик мысли» (т.е. независимых исследовательских центров), прессы и властей на семинаре говорили очень много. *«Серьезные аналитики и СМИ должны играть роль мальчика из сказки Андерсена, должны быть готовы воскликнуть «А король-то голый!» всякий раз, когда они это видят»*, — подчеркнул директор Центра исследований будущего Александр Потупа.

*«Выдающимся завоеванием евроатлантической цивилизации является создание и развитие мощного общественного контроля за деятельностью государства*, — продолжал профессор А.Потупа. — *Если контрольно-корректировочная деятельность сосредоточена в государственных органах — диктатура неизбежна. И когда речь идет о новых белорусских лидерах, то очень важно, насколько эти лидеры готовы подчиняться контролю общества. Необходимо заложить мину, которая вышвырнет из политики любого лидера, если он начнет сопротивляться контрольно-корректировочным механизмам со стороны общества»*.

Что касается непосредственно темы семинара, то влияние «фабрик мысли» на общественные процессы в Беларуси директор Независимого института социально-экономических и политических исследований профессор Олег Манаев охарактеризовал как *«крайне ограниченное»*. *«Исследования аналитических центров властями начисто игнорируются*, — заявил О.Манаев, — *а сами центры воспринимаются как враждебные элементы. Совершенно иное отношение за рубежом: исследования независимых «фабрик мысли» востребованы государством, многие сотрудники аналитических центров приходят во власть и способствуют ее компетентности»*.

Однако и отношения «фабрик мысли» с оппозицией О.Манаев назвал *«далёкими от совершенства»*. Результатом, по мнению Манаева, является *«отсутствие у оппозиции эффективной стратегии, продуманного плана действий»*.

**Вадим КАЗНАЧЕЕВ**

## Газету забараняюць

**Друкарня г.Рэчыца, нягледзячы на афіцыйную дамову, адмовілася друкаваць незалежную газету «Гомельская думка».**

У нядаўна зарэгістраванай газеты з'явіліся недабразычліўцы сярод гомельскіх чыноўнікаў. Начальнік абласнога ўпраўлення па друку Рыгор Сцепаненка патэлефанаваў дырэктару друкарні і забараніў друкаваць незалежную газету. Ён лічыць, што друкарня ледзь спраўляецца з друкаваннем дзяржаўных выданняў, а яшчэ — што «Гомельская думка» нібыта абражае «вертыкаль». Рэдактар «Гомельскай думкі» спрабаваў адстаяць правы сваёй газеты, аднак атрымаў катэгарычны адказ чыноўніка: «газету будзем закрываць».

Цяпер у Гомелі выдаецца толькі адна незалежная газета нацыянальна-дэмакратычнага накірунку — «Навіны Палесся-плюс».

**Уладзімір ВЕРБАВІКОЎ**

## Незалежная прэса пашырае ўплыў

**Незалежная «Газета для вас», якая выдаецца ў г.Івацэвічы Брэсцкай вобласці, істотна пашырыла свой уплыў. Цяпер яна распаўсюджваецца, акрамя Івацэвічаў, у Бярозе, Баранавічах і Пружанах.**

У свой час то была «Газета Уладзіміра Кудзінава», заснаваная івацэвіцкім дэпутатам і прадпрымальнікам, які зараз знаходзіцца ў турме па падложных, па меркаваннях многіх, абвінавачваннях. Змяніўшы назву, «Газета для вас» па-ранейшаму не засяроджваецца выключна на грамадска-палітычнай тэматыцы. Яна публікуе звесткі па розных накірунках (у тым ліку значное месца займаюць мясцовыя навіны), чым і з'яўляецца цікавай для чытачоў Брэсцкай вобласці.

**Зміцер ЛІХТАРОВІЧ**

# Свершилось: мы самые нищие в Европе

За годы президентства Александра Лукашенко Беларусь «отвоевала» место самой нищей страны в Европе, опередив в этом сомнительном соревновании даже Албанию. Потери же экономики от упущенных иностранных инвестиций можно оценить примерно в 2,2 миллиарда долларов.

Для оценки экономического развития стран и регионов существует множество критериев, разобраться в которых простому обывателю не так-то легко. Однако есть прописные истины, понятные всем. Например, сопоставление размера реальной заработной платы, или объемы иностранных инвестиций на душу населения. Если первый параметр говорит более о дне сегодняшнем или вчерашнем, то второй скорее о дне завтрашнем. Во всяком случае для стран с переходной экономикой, где возможности внутренних инвесторов ограничены, иностранные инвестиции позволяют создавать не только новые рабочие места, но и конкурентную продукцию.

| Иностранные инвестиции (млн долл. США) | | | | На душу населения (долл.США) |
|---|---|---|---|---|
| Страны Центральной Европы и Балтии | | | | |
| Страна 1989-98 | | 1997 | 1998 | 1989-98 |
| Албания | 42 | 95 | 473 | 148 |
| Болгария | 497 | 300 | 1.222 | 147 |
| Чехия | 1.275 | 1.000 | 8.473 | 823 |
| Эстония | 128 | 200 | 1.010 | 695 |
| Венгрия | 2.100 | 1.500 | 16.903 | 1.667 |
| Латвия | 347 | 300 | 1.358 | 543 |
| Литва | 218 | 800 | 1.271 | 344 |
| Польша | 3.044 | 4.000 | 12.442 | 321 |
| Словакия | 199 | 51 220 | 1.223 | 227 |
| Страны СНГ | | | | |
| Армения | 51 | 170 | 265 | 72 |
| Азербайджан | 1.093 | 1.155 | 3.233 | 425 |
| Беларусь | 190 | 50 | 346 | 34 |
| Грузия | 189 | 255 | 512 | 95 |
| Казахстан | 1.320 | 1.200 | 5.729 | 365 |
| Кыргызстан | 83 | 29 | 309 | 67 |
| Молдова | 64 | 100 | 342 | 80 |
| Россия | 3.752 | 1.500 | 9.201 | 63 |
| Таджикистан | 11 | 18 | 87 | 15 |
| Украина | 600 | 700 | 2.696 | 53 |
| Узбекистан | 167 | 60 | 423 | 18 |

Последнее обстоятельство ведет к росту экспортных возможностей страны и, как следствие, к увеличению ВВП, росту реальной заработной платы и социальных выплат.

Если рассматривать экономические преобразования в Беларуси в таком контексте, то можно заметить, что никаких положительных сдвигов не произошло. Скорее наоборот: мы не только не сделали ни шага вперед, но и сумели опуститься ниже ватерлинии. Во всяком случае в том, что касается иностранных инвестиций на душу населения. Даже Албания, страна, которая ранее занимала последнюю строчку в европейских экономических сводках, сумела превзойти Беларусь в этом показателе (см.табл.). Причем, если за исследуемый период (1989—1998 гг.) на душу населения Беларусь (34 *USD*) уступает Албании (148 *USD*) почти в 4,5 раза, то своим ближайшим соседям Латвии (543) и Литве (344) — в 10 и более раз.

При правильной экономической политике и соответствующих политических реалиях Беларусь могла бы если и не достичь таких же высоких показателей, то по крайней мере приблизиться к отметке в 250 *USD* иностранных инвестиций на душу населения. В этом случае общая сумма инвестиций могла бы равняться 2,55 миллиарда долларов вместо сегодняшних 346 миллионов. А пока приходится констатировать, что даже среди стран СНГ мы уверенно находимся в арьергарде.

Ниже нас в этом списке лишь Таджикистан (15) и Узбекистан (18), а Армения (72), пострадавшая от катастрофического землетрясения и затяжного военного конфликта с Азербайджаном, и Грузия (95), где все еще слышатся отголоски недавней гражданской войны, оказываются для иностранных инвесторов более привлекательными, чем «стабильная» Беларусь.

Как уже подчеркивалось, инвестиции, если не напрямую, то косвенно, оказывают влияние и на уровень жизни населения. Не всегда эти параметры идентично коррелируют друг с другом, но, по крайней мере, позволяют определить примерный уровень доходов населения. Во всяком случае, касательно Беларуси, занимающей на представленных диаграммах последнее место, эти предположения оказываются верны. И это при том, что расчет заработной платы делался экспертами Европейского банка реконструкции и развития, наверняка, исходя из курса Национального банка Беларуси. А он, как известно, весьма далек от рыночного.




Итак, по инвестициям мы уверенно занимаем последнее место в Европе, и это несмотря на аппарат чиновников, занимающихся этими вопросами в министерстве предпринимательства и инвестиций. Это лишний раз подчеркивает, что на решения иностранных инвесторов о вложении средств в ту или иную страну большее влияние оказывает политический и экономический климат, царящий там, нежели наличие соответствующего министерства. Это более всего заметно на примере двух стран — Чехии (где инвестиции на душу населения составили 823 *USD*) и Словакии (227), которые ранее были единой страной. После цивилизованного «развода» в этих странах установились противоположные по политической окраске режимы. Попытки Словакии построить свой вариант «рыночного социализма» привели к тому, что инвесторы предпочли направить свои капиталы в более предсказуемую Чехию.

Примечательно также и то, что в числе самых нищих стран оказываются те из них, чьи правящие режимы считают, что находятся в кольце врагов. Так еще недавно было с Албанией, где тоталитарный режим отгородился от остального мира ожерельем ДОТов и ДЗОТов, нечто подобное происходит и с Кубой — самой нищей страной в Латинской Америке. Это наводит на мысль, что последнее место в Европе, которое занимает сейчас Беларусь, принадлежит ей по праву. Судя по заявлениям правящей элиты, нам в пору к своим уцелевшим ДОТам и ДЗОТам, что сохранились вдоль линии прежней границы в районе станции Негорелое, пристроить и демонтированные албанские вдоль западной границы. Ведь с Запада на нас смотрят только враги!

Простому же белорусскому обывателю стоит только сожалеть о том, что он оказался в хорошей стране, но не при том режиме, и чувствует себя при этом, как «тампакс». Тот тоже, как известно, всегда оказывается в общем-то в хорошем месте, но не в самое удачное время.

**Александр ГАЛЬКЕВИЧ**




# Найважнейшае мастацтва – плакат



А.Губанаў. ***«Усміхніся»***. 1998

Падзеяй у мастацкім жыцці Беларусі стала выстава «Беларускі друкаваны плакат», якая адкрылася днямі ў сталічным Палацы мастацтва.

Плакат бярэ сваё паходжанне ад афішы, абвесткі, — нездарма сярод экспанатаў выставы беларускага плаката знайшлі месца рарытэтныя канцэртныя афішы 1908 года. Але плакат, не губляючы свайго асноўнага прызначэння — інфармаваць, набыў рысы самабытнага мастацтва, у ім словы і лічбы спалучаюцца з фарбамі і відарысамі. Галоўны прынцып мастацтва плаката — стварэнне ёмістага, лаканічнага і шматзначнага вобраза, часам узнёслага, а бывае, што і поўнага іроніі. Класічны прыклад «плакатнага» вобраза — славуты голуб міру, прыдуманы мастаком Пабла Пікаса.

У беларускім мастацтве ёсць свае «галубы міру», наш плакат мае моцны творчы патэнцыял і багатыя здабыткі. Доказам гэтаму служыць выстава «Беларускі друкаваны плакат». Калекцыю старых і сучасных плакатаў для гэтай выставы сабралі вядучы беларускі мастак-плакатыст Сяргей Еўлампіеў і мастацтвазнаўца Міхал Баразна, арганізацыю ўзяў на сябе Беларускі саюз дызайнераў на чале з Дзмітрыем Сурскім. *«Наш праект сапраўды можна назваць грандыёзнай акцыяй, — кажа С.Еўлампіеў. — Мы ствapылі выставу-калекцыю, якая ў далейшым будзе папаўняцца»*. А М.Баразна адзначае, што збор друкаваных плакатаў — надзвычай складаная справа: плакаты рэдка захоўваюцца, іх расклейваюць на афішных шчытах, каб потым сарваць і замяніць іншымі.

Сапраўды, плакат можна назваць «мастацтвам сённяшняга дня» — плакатысты рэдка звяртаюцца да вечных тэмаў. Вось чаму, акрамя мастацкай асалоды, рэтраспектыва плакатаў, падрыхтаваная беларускімі дызайнерамі, дае магчымасць прасачыць павароты ў развіцці грамадскай думкі і ідэалогіі. Адзін з наведвальнікаў выставы заўважыў: у 50-я гады плакаты заклікалі сеяць каноплі, а ў 90-я — змрочна паказваюць наступствы наркатычнай атрутy.

Дасведчаныя людзі кажуць, што за мяжой плакат ужо стаў «мастацтвам для мастацтва» і часта з'яўляецца чыста творчым самавыражэннем аўтара. Аднак у Беларусі плакат — працаўнік, і служыць ён, як правіла, аднаму з чатырох гаспадароў: Рэкламе, Палітыцы, Культуры, Чалавечнасці. Яны і акрэсліваюць кола тэм плаката — палітычнае жыццё, культурныя падзеі, грамадскія і сацыяльныя праблемы, а пярадусім — рэклама. Здаецца, што агульнага паміж рэкламным календаром і плакатам жудасных наступстваў пажару? Паміж тэатральнай афішай і прапагандысцкім лозунгам? Аднак усе гэтыя творы гавораць з намі на адной мове, мове выяўленчай творчасці, мове плаката.




Е.Тарас, Л.Замах. ***«Навек скасавалі паноў...»*** 1949

Рэтраспектыва плаката — гэта, аднačасова, рэтраспектыва жыцця краіны. Старая і новая рэклама расказвае пра нашую прамысловасць, афішы сведчаць пра падзеі тэатра і музыкі. Гісторыя савецкай Беларусі паўстае на палітплакатах 50—80 х гг., а творы апошняга дзесяцігоддзя ўздымаюць самыя вострыя праблемы нашага грамадства. Шкада толькі, што, напэўна, з прычыны цэнзуры або самацэнзуры на выставе няма ніводнага палітычнага плаката постсавецкага часу. Але гэта, бадай, адзінае, у чым можна было б папракнуць арганізатараў.

**Ганна ШЫМЕЛЕВІЧ**




А.Наважылаў. ***МПЗ «Power»***. 1996

## Музыкантаў віталі Мадрыд і Барселона

**Акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам Генадзя Праваторава закончыў сваё турнэ па Іспаніі.**

Музыканты выступілі з канцэртамі ў буйнейшых гарадах краіны — Мадрыд, Сарагоса, Барселона і інш.

Арганізаваў гастролі вядомы іспанскі імпрэсарыо Роланд Саад, які ўжо некалькі гадоў супрацоўнічае з беларускімі музычнымі калектывамі. Генадзь Праватораў на прэс-канферэнцыі для беларускіх журналістаў прызнаўся, што гастролі былі нялёгкімі з-за пастаянных пераездаў. Да таго ж, чатыры канцэртныя праграмы рыхтаваліся ў вельмі сціслыя тэрміны. Музыканты праводзілі рэпетыцыі нават у дарозе, а ехаў у Іспанію аркестр на аўтобусах.

Як паведаміў галоўны дырыжор, у склад гастралёраў былі ўключаныя некалькі юных выканаўцаў з Рэспубліканскага музычнага каледжа, а падчас канцэрта з твораў «караля вальсаў» Штрауса разам з аркестрам выступалі чатыры танцавальныя пары з ансамбля рэспубліканскага палаца культуры «Юнацтва».

Канцэрты аркестра паспяхова прайшлі ў старажытным мадрыдскім саборы «Лос Еранімас» і ў іншых прэстыжных залах Іспаніі.

*БелаПАН*

## Мастакі-авангардысты злучыліся ў суполку

**Вядомы мастак-авангардыст Артур Клінаў заявіў на мінулым тыдні аб стварэнні ў Беларусі Асацыяцыі сучасных мастацтваў. У аргкамітэце асацыяцыі — музыканты, мастакі, літаратары, крытыкі, журналісты.**

Асноўнай мэтай новага грамадскага аб'яднання стане стварэнне інфраструктуры мастацкага працэсу, незалежнай ад дзяржаўных установаў. Дзяржава, на думку аргкамітэта асацыяцыі, не забяспечвае мастакам роўныя ўмовы для творчасці. Ідэалагічныя абмежаванні дыктуюць прыярытэты ў размеркаванні і без таго невялікіх фінансавых сродкаў.

Асацыяцыя мае некалькі праграмаў работы: аб'яднанне нешматлікіх незалежных выставачных залаў у галерэйную сетку дзеля стварэння новых інтэграваных культурных цэнтраў мастацтва, падтрымка інфармацыйнага абмену паміж беларускімі аўтарамі і замежнымі ўдзельнікамі сусветнага культурнага працэсу. У праграме «Еўрапейскія майстэрні» намечана наладзіць майстэрні ў культурных цэнтрах Еўропы, каб стварыць базу для далучэння мастакоў да сусветнага мастацкага працэсу.

Асацыяцыя таксама збіраецца заняцца адукацыйнай дзейнасцю, правядзеннем фестываляў, стварэннем незалежнай арт-прэсы, дапамогай сваім членам у вырашэнні сацыяльных праблем.

*БелаПАН*



Фото Василия Артющенко. Киев

*На рацэ Гарынь.*

## Даты і лёсы

### 26 студзеня

**1564.** 10-тысячнае войска гетмана Мікалая Радзівіла Рудога разбіла 30-тысячнае маскоўскае войска на Чашніцкіх палях (каля ракі Улы). Ваявода Пётр Шуйскі, які ўзначальваў інтэрвентаў, загінуў у бітве.

**1886.** Карл Бенц запатэнтаваў рухавік унутранага згарання і трохколавы аўтамабіль.

**1947.** У авіякатастрофе блізу Капенгагена загінулі спадчынны прынц Швецыі Густаў-Адольф і ягоная сяброўка амерыканская спявачка і кінаактрыса Грэйс Мур.

**1972.** Харвацкія тэрарысты ўзарвалі лайнер ДС-9, які вяртаўся з Стакгольма ў Бялград (яны меркавалі, што на борце знаходзіцца прэм'ер-міністр СФРЮ Джэмал Біедзіч, але памыліліся). Загінулі 27 чалавек, ацалела толькі сцюардэса Весна Вулавіч, яна ўпала з вышыні 10 км і засталася жывая. У час выбуху дзяўчына была ў хвасце лайнера і разам з ім упала ў глыбокі стаў.

**1994.** Памёр выбітны беларускі пісьменнік і змагар з сталінізмам Алесь Адамовіч.

### 27 студзеня

**1822.** У выніку нацыянальнага паўстання Грэцыя дамагалася незалежнасці ад Асманскай імперыі.

**1839.** Нарадзіўся ўкраінскі этнограф, паэт, аўтар нацыянальнага гімна «Ще не вмерла Україна» Паўло Чубынскі. Збіраў і наш фальклор: запісаў у беларускім Палессі 400 песень.

**1859.** Нарадзіўся апошні германскі імператар Вільгельм II (памятаеце кадр з фільма «Міколка-паравоз», дзе беларускія дзеці вучаць нямецкую мову: *«Wir lieben unser Keiser!» — «Мы любім нашага кайзера!»*). Памёр у эміграцыі ў Галандыі.

**1921.** Урад БНР накіраваў патрыярху Маскоўскаму і Усяе Русі мемарандум, у якім прасіў перавесці набажэнствы ў цэрквах Беларусі на беларускую мову і выдаць малітоўнікі, богаслужэбнікі і Новы Запавет на беларускай мове, як гэта было зроблена яшчэ ў 1914 г. для Украіны. Патрыярх і Св.Сінод далі беларускім епархіям дазвол карыстацца ў казанях і царкоўнай літаратуры беларускай мовай.

**1930.** У Крымінальны кодэкс БССР быў унесены артыкул 94, у якім прадугледжвалася крымінальнае пакаранне сялянам за продаж або забойства сваёй жывёлы, што магло пашкодзіць калектывізацыі.

**1944.** Скончылася 880-дзённая блакада Ленінграда, падчас якой загінулі 1,5 млн. абаронцаў і жыхароў горада. 641 тысяча чалавек памерла ад голаду, 17 тысяч загінула пад бамбёжкай. Усяго падчас бамбардзіровак у Ленінградзе разарвалася 100 тыс. авіябомбаў і 150 тыс. артылерыйскіх снарадаў.

**1996.** Германія пачала штогод адзначаць Дзень памяці ахвяраў нацызму, прымеркаваны да дня вызвалення вязняў Асвенцыма ў 1945 г.

### 28 студзеня

**1573.** Сойм у Варшаве пад ціскам магнатаў-пратэстантаў прыняў пастанову пра рэлігійную «вольнасць» для шляхецкага саслоўя. Пазней гэтая пастанова ўвайшла ў Статут ВКЛ, дарэчы, зацверджаны каралём Жыгімонтам III у гэты ж дзень у 1588 годзе. Цікава, што грамадзянскую дзеяздольнасць мужчын Статут прызнаваў з 18 гадоў, а жанчын — з 13 (з гэтага ўзросту дазвалялася браць шлюб).

**1874.** Нарадзіўся выбітны расійскі рэжысёр нямецкага паходжання Усевалад Меерхольд, лідэр савецкага тэатральнага авангарда. Сталін загадаў зачыніць тэатр Меерхольда, які быў надта далёкі ад сацрэалізму, а сам рэжысёр загадкава знік у 1939 г.

**1896.** Доктар Эміль Грубэ з Чыкага ўпершыню пачаў скарыстоўваць радыеактыўнае выпраменьванне для лячэння ракавых пухлінаў малочных залозаў у жанчын.

**1919.** Нарадзіўся выбітны беларускі акцёр Павел Кармунін, выканаўца мноства роляў у Купалаўскім тэатры і ў фільмах «Паводка», «Людзі на балоце», «Чужая бацькаўшчына».

**1935.** Ісландыя стала першай краінай, якая легалізавала аборты.

**1986.** На 73-яй секундзе палёту над мысам Канаверал узарваўся касмічны карабель *Challenger*. Загінулі 7 астранаўтаў, у тым ліку настаўніца Крыста Мак-Оліф, якая збіралася правесці з космаса ўрокі па тэлебачанні.

*Падрыхтаваў*
**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

## Иисус как глава повстанцев

**При распятии Иисуса Христа на кресте над его головой была прикреплена дощечка с надписью: «Иисус Назаретянин Царь Иудейский». Что это значит? Заслуживает интереса версия зарубежного исследователя этого периода истории Дж. Кармайкла.**

Под каким углом мы бы ни рассматривали детали суда над Иисусом, одну подробность невозможно ни исключить, ни затушевать. Подробность эта повторяется во всех четырех Евангелиях: христианская традиция не скрывает того факта, что казнен он был как Царь Иудейский. Римская власть того времени, представляя казнь Иисуса как распятие на кресте Царя Иудейского, не вкладывала в это определение никакого потустороннего подтекста: речь шла о повстанце, казненном за участие в восстании.

Попробуем рассмотреть события, предшествовавшие аресту и казни Иисуса в изложении нещедрых на детали Евангелий. Начнем с анализа тех трех дней, когда Иисус молился в храме: за эти три дня он «перевернул столы тех, кто продавал и покупал в Храме», и «выгнал их из Храма кнутом». Подробности этих дней бросают зловещий отсвет на поведение Иисуса, представленное в Евангелиях как действо символическое, не имеющее ничего общего с насилием. Между тем нельзя понять этот эпизод вне предположения, что Иисус попросту захватил Храм. Иначе как мог бы он ворваться туда и хозяйничать там столь продолжительное время? Известно, что Храм представлял собой огромное учреждение, охраняемое римской когортой, в состав которой входило не менее 500—600 человек, и собственно храмовой обслуги численностью не менее 20.000 человек. Как бы Иисусу удалось перевернуть столы денежных менял на глазах этой многочисленной стражи, не говоря уже о самих менялах — вряд ли кротких и безобидных? Остается предположить, что армия Иисуса была не менее многочисленна и хорошо вооружена. Это предположение объясняет многие неясные строки, мелькающие во всех четырех текстах:

«Один же из стоявших тут извлек свой меч, ударил раба первосвященника и отсек ему ухо» (Марк 14:47).

«Бывшие же с ним, увидев, к чему идет дело, сказали Ему: Господин, не ударить ли нам мечом?» (Лука 22:49).

«Они сказали: Господин, вот два меча» (Лука 22:38).

Нет сомнения, что Иисус мог захватить Храм только во главе вооруженного отряда, из чего следует, что казнь его как Царя Иудейского прямым образом связана с этим захватом Храма. В более поздних источниках (труды Отцов Церкви) есть ссылка на высказывание преследователя христиан Соссануса Хироклеса по прозвищу Лактанциус, префекта Египта при Диоклетиане, который прямо называет Иисуса «разбойником», предводителем вооруженной шайки численностью в 900 человек. Слово «разбойник» во времена Лактанциуса обычно употребляли по отношению к повстанцам против власти Рима.

Только в свете представления об Иисусе как о предводителе вооруженного отряда можно понять смысл предательства Иуды Искариота. Воистину, зачем Иуде было указывать на Иисуса, который на протяжении трех дней переворачивал столы в Храме и кнутом выгонял менял? Неужели никто из присутствующих и пострадавших не мог его опознать? Но если представить, что популярный в народе толкователь Священного Писания был одновременно и предводителем разбитого вооруженного отряда, становится понятным, что именно выдал Иуда — он выдал римлянам тайное убежище Иисуса и его последователей, где те прятались после разгрома, где-то в полутора милях от Иерусалима по дороге на Иерихон. Можно предположить, что прозвище Иуды «Искариот» восходит к определению «кинжальщик» («сикарий») — как называли группу крайних экстремистов, боровшихся против римского владычества. А два «вора-разбойника», распятые вместе с Иисусом, вполне могли быть борцами за Царство Божие, — их, казненных за участие в мятеже, желательно было принизить бранным определением. Так же и помилованный Варрава, арестованный за то, что он «во время мятежа сделал убийство» (Марк 15:7), скорее всего, был участником событий, которые христиане теперь трактуют так символично.



© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996 Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 451 Нумар падпісаны ў друк 25/01/99 (15:00) Наклад — 17.590